адна зямля

Астравец, Мядзел, Смаргонь, Вілейка, Ашмяны, Маладзечна, Валожын, Мінск

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

20 лютага 2004 года

№ 8 (461)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень 18 каналаў 23 – 29 лютага з «Рэгіянальнай газетай»

## Навіны рэгіёну

### Дайшло да суда

СМАРГОНЬ. У судзе разглядаецца справа 48-гадовай смаргонкі, якая вымантачвала крэдыты ў банку, прысвойвала грошы, прадала 9 вагонаў цукуру, які ўзяла на захаванне, злоўжывала службовымі паўнамоцтвамі. Самае строгае пакаранне за гэта – 12 год пазбаўлення волі.

Ірына РАБУШКА.

### Смачна і з ёдам

АШМЯНЫ. На прылаўках магазінаў з'явіліся паўфабрыкаты з дабаўленнем парашку марской капусты вытворчасці Ашмянскага мясакамбіната. Па словах галоўнага інжынера **Соф'і Архіпенкі**, новы прадукт папоўніць недахоп ёду ў арганізме чалавека.

Ірына РАБУШКА.

### Ахвяры пажару

МЯДЗЕЛ. Жылы дом разам з гаспадаром і яго сужыцельніцай згарэў нядаўна ў вёсцы Пузыры. Паводле папярэдніх звестак пажарных, прычына здарэння — курэнне ў ложку ў нецвярозым стане.

Святлана ЦІШКО.

### Фларыстыка

ВІЛЕЙКА. Выстава фларыстычных карцін прайшла 16 лютага ў СШ №5. Аўтары карцін – члены гуртkoў «Прырода і сет» і «Вырабы з прыроднага матэрыялу» сектару турысцка-спартыўнай і экалага-натуралістычнай работы Вілейскага цэнтра пазашкольнай работы.

Святлана ЦІШКО.

### Выстава мастака

ВАЛОЖЫН. Адкрыццё выставы мастака **Васіля Лазоўскага** прайшло ў раённым краязнаўчым музеі. Каля 30-і карцін, на якіх перапляліся абстрактнасць і канкрэтыка, прадставіў маладзечанскі мастак. Экспанавацца ў Валожыне работы будуць месяц.

Марына СЛІЖ.

### Спявалі педагогі

МАЛАДЗЕЧНА. Другі этап конкурсу-агляду патрыятычнай песні, у якім прынялі ўдзел самастойныя выканаўцы і музычныя калектывы школ, гімназій і пазашкольных устаноў горада, прайшоў на базе Маладзечанскай беларускай гімназіі. На заключны этап агляду адабрана 36 нумароў.

Марына СЛІЖ.

### Кот, які лятае

АСТРАВЕЦ. У Доме культуры прайшоў дзень літоўскай культуры. У рамках свята адкрылася выстава зямлячкі мастачкі **Бірутэ Куцкайтэ**. Галоўны герой яе работ – кот, у тым ліку і той, які лятае.

Ірына РАБУШКА.

# Дарожная брыгада

Брыгада дарожна–будаўнічага ўпраўлення №162, якой кіруе Генадзь Шупенька, на аўтадарозе Краснае–Ілья.

Фота Марыны СЛІЖ.

## І ў снег, і ў слоту абслугоўвае Вілейскае дарожна-будаўнічае ўпраўленне №162 участак дарогі працягласцю ў 160 кіламетраў

**ВІЛЕЙКА. Жыхар Чысці Аляксандр Радкевіч прыйшоў у рэдакцыю, каб падзякаваць дарожнікам за добрую работу.**

Маладзечна яшчэ было засыпана снегам, у шэра-жоўтым месіве якога вязлі ногі пешаходаў і колы аўтамашын. Таму, напэўна, і верылася з цяжкасцю ў тое, што ў нас таксама бываюць ідэальныя дарогі. Аляксандр згадзіўся паказаць.

Ехалі праз Маладзечна, затым — заснежаную Чысць, пакуль не трапілі на аўтадарогу Краснае - Ілья. "Бачыце розніцу?"— спытаў добраахвотны экскурсавод. Як ні дзіўна, нават я, чалавек, які ніколі не сядзеў за рулём, адчула, што машына пайшла лягчэй. Ёй ужо не трэба было штурмаваць раз'езды, прыціскацца да абочын, калі даводзілася разміначца з сустрэчным транспартам, баяцца мастоў.

За Раёўкай нас абагналі дарожнікі. Участак працягласцю ў 160 кіламетраў абслугоўвае Вілейскае дарожна-будаўнічае ўпраўленне №162. А калі больш дакладна, то работнікі яго філіяла, размешчанага ў Ільі. У брыгадзе, якой кіруе Генадзь Шупенька, 19 чалавек і каля дзесятка адзінак тэхнікі.

Працоўны дзень у брыгады, яна якраз і адказвае за стан аўтобусных прыпынкаў, мастоў, пачынаецца ў 8 гадзін раніцы. Асноўны інструмент, як расказалі мужчыны, рыдлёўкі. Сёлетняй зімой яны ў машыне не залежваліся. Снег ішоў суткамі, і весці барацьбу з ім даводзілася цэлы светлавы дзень.

Не лягчэй было і вадзіцелям, трактарыстам, якія забяспечвалі жыццядзейнасць дарог рэспубліканскага і мясцовага значэння. Чысцілі пад'езды да ўсіх вёсак і нават хутароў, на якіх пазаставалася па адной хаце. І ў дзве, і ў тры гадзіны ночы можна было ўбачыць на дарозе тэхніку Вілейскага ДРБУ-162, якая змагалася з заносамі нават тады, калі ўсе спалі.

Звярнулі з цэнтральнай аўтастрады на Залессе. Лясная дарога, на якой не сустрэлі ніводнай машыны, была роўная, гладкая, нібы падмеценая. "Вось вам яшчэ адзін доказ таго, як людзі ўмеюць працаваць," — зазначыў Аляксандр Радкевіч. - Не пярэчыла. Бо і сама даўно ведаю, што любая справа з чалавека пачынаецца.

Марына СЛІЖ.

**Вазьміце напракат**

У Маладзечне ўсяго адзінае прадпрыемства, якое здае рэчы напракат

3-я старонка

**Трагедыя на дарозе**

Чацвёра нашых землякоў загінулі 13 лютага на дарозе ў Літве.

4-я старонка

**Мічман Галіна**

Адзіная ў Беларусі жанчынамічман Галіна Паўлічэнка жыве і служыць у Вілейцы.

7-я старонка

**ВЫСТАВА**

# Усе колеры лета ...

**МАЛАДЗЕЧНА. Выстава сучасных шведскіх мастакоў адкрылася ў Палацы культуры. Свае работы на ёй прадстаўляюць Ларса-Ёран Малмгвіст, Маціас Альсон, Кэрсці Рэгфелт, Ульрыкі Крысцел.**



Творы сучасных шведскіх мастакоў экспануюцца ў выставачнай зале Палаца культуры. Фота Марыны СЛІЖ.

Усе яны працуюць у Доме графікі горада Марыфед, што з'яўляецца цэнтрам скандынаўскага графічнага мастацтва. А выставіць свае творы ў Маладзечне змаглі дзякуючы намаганням грамадзяніна Швецыі Ларса-Ёрана Малмгвіста, грамадзянкі Беларусі Галіны Еўдакімчыкавай пры фінансавай дапамозе Свенскага інстытута, які падтрымаў праект культурных кантактаў паміж Швецыяй і Беларуссю. Аб усім гэтым і гаварыў падчас адкрыцця выставы маладзечанскі мастак Мікола Аўчыннікаў, які тройчы быў у Швецыі, у тым ліку на гэтай графічнай базе, і персанальна знаёмы з мастакамі.

"Зразумела, вы бачыце другія матэрыялы, другую падачу твораў, — зазначыў ён. – І ў той жа час, замежнага мастацтва няма. Аўтары вынеслі свае работы на суд, і тут ужо ваша права, успрымаць іх альбо не".

Шведскія мастакі на выставу не прыехалі. Іх афіцыйным прадстаўніком стаў Мікола Аўчыннікаў, які завочна прадставіў кожнага са сваіх калег.

"Кэрсці Рэгфелт, — зазначыў ён, —чалавек з тонкім, далікатным адчуваннем колеру і прасторы. Для Ларса-Ёран Малмгвіста характэрны пластычныя рысы і плямы – аснова яго творчага пошуку. Ульрыкі Крысцел – мастачка з лаканічным і цэльным успрыманнем свету. А Маціас Альсон – мастак, у творах якога графічная фактура ліста набывае стэрэафанічнае гучанне і выходзіць за межы аднаго вымярэння".

Зразумела, кожны чалавек сюжэты карцін прачытае па-свойму. "Але тое, што ад кожнай з іх вее цяплом і багаццем фарбаў, — як зазначыла ў час выступлення **Ларыса Сысун**, — бясспрэчна".

У задуменні хадзілі наведвальнікі ад карціны да карціны па выставачнай зале. На адных спынялі позірк на хвіліну, каля іншых затрымліваліся надоўгу. Відаць, спрабавалі разгадаць душу, думкі мастакоў з далёкай Швецыі. Такіх розных і далёкіх...

**Марына СЛІЖ.**

## Выбралі лепшага выхавальніка

**СМАРГОНЬ. У школе-інтэрнаце прайшоў фінал раённага конкурсу "Выхавальнік года-2004".**

У ім удзельнічалі 14 канкурсантак. Усе вельмі хваляваліся: выступаць для шырокай публікі і строгага журы яны не прывыклі. Для іх больш звычна кожную раніцу прыходзіць у дзіцячы сад і выхоўваць малышню добрымі і чэснымі людзьмі.

Сваё прафесійнае майстэрства ўдзельніцы дэманстравалі ў такіх конкурсах, як прадстаўленне, педагагічная сітуацыя і танец. Асаблівую ўвагу членаў журы заваявалі цудоўныя вырабы, якія выхавальнікі зрабілі сваімі рукамі.

У выніку напружанай барацьбы 1-е месца і галоўны прыз – аўдыёмагнітафон – журы прысудзіла Таццяне Казак, выхавальніцы Смаргонскага цэнтра развіцця дзяцей (дзіцячы сад №12). Педагагічны стаж Таццяны Веніямінаўны складае 12 гадоў. Па словах самой пераможцы, да гэтай перамогі яна карпатліва ішла ўсё жыццё, аддаючы часцінку сваёй душы дзецям.

**Ірына ЛУГІНА.**

## Англійскія госці наведалі гімназію

**СМАРГОНЬ. У артыкуле "Убачыў мінулае" (№51 за 19 снежня мінулага года) я расказвала пра візіт англічаніна Стэфана Гісіча ў Смаргонь.**

Там успаміналася цікавая гісторыя, якая звязвае жыццё гэтага чалавека з нашым краем (Стэфану праз шмат гадоў удалося знайсці сваіх блізкіх сваякоў і пагасціць у іх). Ад паездкі ў яго засталіся цёплыя ўспаміны пра беларускую гасцінасць, усмешлівых і прыемных людзей і прыгожых жанчын. Аднак абяцаў у бліжэйшы час прыехаць зноў. Так і здарылася.

Нядаўна англічаніна Стэфана і двух яго блізкіх сваякоў, брата Нікаласа і дзевера Дэніса, можна было бачыць на вуліцах горада. Яны наведалі мясцовыя славутасці горада, прайшліся па магазінах, здзіўляючыся пры гэтым нізкім цэнам на тавары і паслугі, актыўна вялі гутаркі з прахожымі. А яшчэ прыйшлі на сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі гімназіі №4. Гутарка атрымалася ажыўленай. Школьнікі задавалі пытанні сваім брытанскім гасцям наконт адукацыі ў іх краіне, вольнага часу і праблем моладзі. Шмат цікавага Стэфан і яго сваякі расказалі аб англічанах і іх традыцыях, Лондане і іх родным горадзе Блэкборне. У зале часта чуўся смех, паколькі гумар таксама прысутнічаў. Такія зносіны вельмі карысныя для вучняў, паколькі чуць сапраўдную англійскую мову ім даводзіцца не часта. А закончыўся візіт англічан наведваннем музея гімназіі, у якім сабрана нямала цікавых экспанатаў, што расказваюць аб гістарычнай спадчыне Смаргоншчыны.

**Ірына ЛУГІНА.**

**ТЭАТР**

## Абяцаная прэм'ера

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння ў Мінскім абласным драматычным тэатры ў 19 гадзін адбудзецца прэм'ера меладраматычнага дэтэктыва "Люці" па п'есе Аляксея Дударава.**

Гэта другая сумесная работа маладога земляка рэжысёра **Валеры Мурычына** і нашага тэатра. Папярэдні спектакль "Білет у рай", пастаўлены Валерыем у 2001 годзе, на міжнародным фестывалі монаспектакляў "Я" атрымаў першую прэмію ў намінацыі "Творчая моладзь".

Сённяшні спектакль з удзелам трох акцёраў вылучаецца сваім псіхалагізмам. Гэта гісторыя адзінокай жанчыны, Люці, да якой у навагоднюю ноч завітаў мужчына, Капітан, які прызнаецца ёй у каханні. Яна – былая тэлевядучая, даўно жыве адна на дастаткова сціплыя сродкі. Праз некаторы час высвятляецца, што ён прыходзіў забіць яе. Але... абараняе і дапамагае захаваць каханне Ваван, які выпадкова паблытаў адну лічбу тэлефоннага нумара.

Ролю капітана выконвае **Віктар Багушэвіч**, Люці – **Таццяна Грасевіч**, Ваван – **Андрэй Барткевіч**. Музычнае афармленне да спектакля падбіраў Валеры Мурычын, сцэнаграфію выконваў **Валеры Ласоўскі**. Танцы паставіў балетмайстар маладзечанскай трупы **Анатоль Кудраўцаў**.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

**АНОНС**

## «Купалінка» прэзентуе...

**МАЛАДЗЕЧНА. У чацвер, 26 лютага, а 17-й гадзіне ў Цэнтральнай бібліятэцы імя М.Багдановіча адбудзецца прэзентацыя калектыўнага зборніка вершаў маладзечанскіх паэтаў "Погляды", які пабачыў свет ў жніўні мінулага года.**

У кнігу ўвайшло 100 вершаў ад дзесяці зусім не падобных адзін да аднаго аўтараў, кожны з якіх прадставіў свой творчы зрэз, свой твар і патэнцыял. **Валерый Маркелаў, Лідзія Гардынец, Алег Шчукін, Таццяна Мацэвіч, Яніна Дзяркач, Станіслаў Касаты, Іван Чарненка, Валянцін Бабкін** (на жаль, заўчасна памёр у кастрычніку мінулага года), мастачка **Антаніна Нявера** і я, аўтар гэтых радкоў, прадставілі на суд чытачоў розныя напрамкі вершаскладання: ад грамадзянскай лірыкі да інтымнай, ад вольных, "народных", напеўных да верлібра – "белага верша". Усе вышэйзгаданыя аўтары складаюць так званы "касцяк" літаб'яднання "Купалінка" – маладзечанскага згуртавання паэтаў з больш як 50-гадовай гісторыяй свайго існавання.

Выдадзеная напрыканцы мінулага года кніга мела добры рэзананс. Набыць яе зараз можна будзе ў кнігарні "Спадчына" і на самой вечарыне. Відавочна цяпер, што не пашкодзіў бы і дадатковы наклад (зборнік меў 500 асобнікаў), якія амаль усе разышліся). Запрашаем усіх ахвотных на цікавае мерапрыемства, якое, несумненна, узбагаціць ваш унутраны свет новымі паэтычнымі поглядамі.

**Таццяна ШЭЛЕГ.**

**ДУМКІ ЎСЛЫХ**

## Мужчынскія слёзы

Калі ёсць жаночы лёс, значыць, ёсць і мужчынскі. Калі можна паплакацца над жаночай доляй, то над мужчынскай не прынята. Ну, не цярпіць моцная палова чалавецтва сантыментаў, і ўсё тут. Між тым, ніколі не паверу ў тое, што мужчыну абыякава, хто будзе яго жонка. Добрая, клапатлівая дзяўчына ці "сарві галава", якая ні разу ў сваім жыцці не варыла боршч і не мыла ў кватэры вокны. Як правіла, каханне ў такіх сем'ях хапае ненадоўга?

Я ведала маладую пару, дзе муж, вобразна кажучы, не мог надыхацца на жонку. Сам у кватэры прыбіраў, сам на рынак бегаў, пірагі пёк. Толькі б Ілоне добра было. Толькі б не папракала, не казала, што зарплату малую прыносіць, кветкі не дорыць, у тэатр не водзіць. А яму не было ў той тэатр нават у чым пайсці. Усе грошы, што зарабляў, жонка траціла на абновы ды касметыку, не думаючы пра тое, на што будуць жыць да наступнай зарплаты.

Ён не скандаліў. Ён цярпеў. Прасіў тысячу-другую да зарплаты ў сястры, у бацькоў-пенсіянераў, пазычаў грошы, загадзя ведаючы, што аддаць доўг не зможа. А аднаго дня ўзяў ды не прыйшоў дадому начаваць. Ілона абзваніла ўсіх знаёмых, усіх сяброў, мужа нідзе не было. У роспачы, прыбегла да яго на працу. "Я да цябе больш не вярнуся, — сабраўшы волю ў кулак, сказаў ёй Эдуард. – Стаміўся жыць з бяздушным чалавекам".

Нялёгка душэўнасць гэту пранесці праз мітусню будняў. Вось і крычым часам, бегаючы па кватэры з венікам у руках, што няма ў гэтай хаце нікому справы ні да дзяцей, ні да пустога халадзільніка, ні да дываноў, якія за гады сумеснага жыцця муж ні разу не вынес без напамінку. Зразумела, усё яно далёка не так. Але на тое ж мы і жанчыны, каб устройваць час ад часу цырк і атрымліваць своеасаблівую разрадку. І не дай бог мужу сказаць у гэту хвіліну што-небудзь у сваё апраўданне...

"Дапамажыце знайсці адрас швейнай фабрыкі, — прасіў адзін знаёмы. – Хачу падзякаваць туды напісаць. Такую патаемную кішэньку ў пінжаку прыдумалі, што нават жонка не можа заначку знайсці". Вядома ж, ён жартаваў. Але ў кожным жарце, як кажуць, ёсць доля праўды. Быў у яго жонкі грэх: у кожную зарплату чысціла кішэні. Пасля штодзень выдавала... па 300 рублёў на цыгарэты. І гэта пры тым, што муж ніколі не злоўжываў спіртным. Цікава толькі, ці доўга б яна сама ў такіх умовах магла пражыць?

Адзін прадстаўнік моцнай паловы чалавецтва, дарэчы, вялікі начальнік, неяк прызнаўся: "Мы, мужчыны, толькі з выгляду моцныя. На самой жа справе сэрца пяшчоты і разумення просіць гэтак жа, як і ў жанчын". Яму добра, у яго ёсць надзейны тыл: дружная сям'я, разумная жонка. А на чыім плячы паплакацца тым мужчынам, якіх нават не спрабуюць зразумець. Толькі патрабуюць, нічога не даючы ўзамен?



**Разважала Марына СЛІЖ.**

■ АБСЛУГОЎВАННЕ

# Ці не ўзяць што напракат?

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзяржаўнае камунальнае унітарнае прадпрыемства "Адпачынак" знаходзіцца на вуліцы Ф.Скарыны, 20 і з'яўляецца адзіным у горадзе, якое прапануе свае паслугі па пракату рэчаў, неабходных у паўсядзённым жыцці кожнага чалавека.**

Па гэтым адрасе пункт пракату працуе з 1989 года. Раней ён месціўся ў будынку цяперашняга цэнтра занятасці насельніцтва, што па Вялікім Гасцінцы. У штат арганізацыі на чале з дырэктарам **Міхаілам Лабадаевым** уваходзіць яшчэ 6 чалавек: галоўны бухгалтар, эканаміст па забеспячэнні, два касіры, механік і прыбіральшчыца.

Раней ніколі не карыстаўся паслугамі пракату і пры першым наведванні чамусьці засумняваўся ў рэнтабельнасці гэтага прадпрыемства. Па студэнцкіх часах згадваецца работа мінскіх падобных арганізацый. Пры засяленні ў інтэрнат большасць з нас, іншагародніх студэнтаў, ужо ў пачатку верасня проста не паспявала ўзяць напракат тэлевізар альбо халадзільнік, нягледзячы на тое, што ў кожным раёне горада працаваў пункт пракату, а то і не адзін. І гэта зразумела: двухмільённая сталіца проста была не ў стане задаволіць узрослыя патрабаванні тых, хто часова тут пражываў. Зусім іншая справа, як мне здавалася, наш горад. Пераважная частка жыхароў горада з'яўляецца карэннай, некаторыя пражылі тут ужо значны час і даўно маглі дазволіць сабе набыццё таго ж самага тэлевізара ва ўласнасць. А студэнтаў у нас і наогул няма. Навучэнцаў жа нашмат менш, чым у сталіцы.

Усе мае сумненні наконт гэтага развеяла галоўны бухгалтар **Ірына Сысун**. Ірына Пятроўна працуе на сваёй пасадзе з 1984 года, і лепшага эксперта ў гэтай галіне наўрад ці можна знайсці.



**Касір маладзечанскай фірмы пракату "Адпачынак" Ніна Ермаковіч трымае пад рукамі адзін з самых хадавых тавараў: пярсцёнкі для маладых для вясельнага картэжа.**
Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Па яе словах, прадпрыемства працуе, да таго ж вельмі паспяхова. Асноўныя спажыўцы – гэта так званы "сярэдні клас". Дазволіць сабе купіць добрую дарагую рэч з разраду бытавой тэхнікі можа далёка не кожны. Я ўжо не кажу пра пенсіянераў і іншагародніх навучэнцаў.

Менавіта гэтым людзям на дапамогу і прыходзіць пункт пракату. У яго асартыменце халадзільнікі, тэлевізары, музычныя інструменты, газавыя пліты, швейныя машынкі, дзіцячыя ложкі, посуд, мыліцы і нават канькі. Кошт паслуг, на мой погляд, даволі даступны: тэлевізары — ад 6 да 9 тысяч у месяц (у залежнасці ад мадыфікацыі), халадзільнікі – 5-7 тысяч, музінструменты – 6-9 тысяч. На сённяшні дзень у насельніцтва знаходзіцца каля 600 тэлевізараў і 300 халадзільнікаў. А наяўнасць у штаце майстра-механіка дазваляе трымаць гэтую тэхніку ў спраўным стане і своечасова забяспечваць яе рамонт.

Вялікім попытам карыстаюцца музычныя інструменты: акардэоны, баяны, цымбалы, фартэпіяна. Шмат з іх знаходзіцца ў карыстанні. І гэта зразумела: бацькам выгадна звярнуцца да паслуг пракату, каб забяспечыць умовы хатніх заняткаў па музыцы для сваіх дзяцей, якія вучацца ў музычнай школе.

"Адпачынак" можа дапамагчы ў падрыхтоўцы сямейных урачыстасцяў: вяселляў, юбілеяў і г.д. Аднachасова тут вы можаце ўзяць сталовых прыбораў на 700 чалавек.

На вуліцы – зіма, і той, хто аддае перавагу не канапе з тэлевізарам, а марознаму паветру і здароваму ладу жыцця, можа ўзяць напракат канькі.

Камп'ютэрныя клубы ўсё больш выцясняюць з жыцця нашых дзяцей лядовы бляск і клюшку з шайбай, таму канькі ў пракаце карыстаюцца нашмат меншым попытам, чым раней. Але, я думаю, тым, хто любіць спорт, яшчэ не позна ўсё выправіць.

Асартымент пракату ўвесь час пашыраецца. Атрыманы прыбытак у большасці сваёй выкарыстоўваецца для абнаўлення пракатнага фонду.

Жыццё і работа пункту пракату не стаіць на месцы. Вам тут заўсёды будуць рады. Для таго, каб скарыстацца яго паслугамі, дастаткова мець з сабой пашпарт з маладзечанскай прапіскай, даведку з месца працы і шчыры намер своечасова і ў поўным аб'ёме аплачваць паслугі.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 12.2 руб. | 19.2 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2157,00 | 2154,00 |
| Еўра | 2731,95 | 2777,69 |
| Злоты | 563,11 | 568,47 |
| Літ | 791,08 | 804,35 |
| Расійскі рубель | 75,60 | 75,62 |
| «Вулічныя» курсы ў Маладзечне | | |
| Долар | 2160/2170 | 2160/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 11.2 | 18.2 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13830 | 13830 |
| Сасіскі, 1 кг | 4890 | 4890 |
| Селядзец, 1 кг | 3000 | 3000 |
| Рыс, 0,9 кг | 900 | 1000 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1600 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1570 | 1570 |
| Алей, 1 л | 1900 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 520 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 950 | 1000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 850 | 980 |
| Капуста, 1 кг | 480 | 350 |
| Морква, 1 кг | 600 | 650 |
| Лімоны, 1 кг | 3100 | 3200 |
| Апельсіны, 1 кг | 2150 | 2200 |
| Яблыкі, 1 кг | 1050 | 850 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 1000 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5100 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2300 | 2000 |
| Сала, 1 кг | | 3300 |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1200 |

НАРКАЛОГІЯ
Перарыванне запою (кругласутачна),
Комплекснае лячэнне алкагалізму
Індывідуальны прыём па папярэднім запісе.
Маладзечна, вул. Вольная, 12,
тэл.: 37275, 50974, (8-029) 6337275.
Ліц. МАЗ РБ №954 ад 8.06.1999-8.06.2004 г.

ОПТОМ И В РОЗНИЦУ
ШИНЫ (грузовые, легковые).
АКБ 6СТ-55-190 (Исток, Бэрен).
ГЛУШИТЕЛИ (ВАЗ, и/марки).
МАСЛО (LUXOIL, MANNOL)
Молодечно, ул.Притыцкого, 14,
т. 74054 («МИР ШИН И АККУМУЛЯТОРОВ»)
Т. в Минске (017) 2608275 (ОПТ, М/ОПТ)

SECOND HAND
ПРЯМЫЕ ПОСТАВКИ из Франции
Опт и мелкий опт
8-029-688-02-88, 651-50-34

Полное обследование организма по методу Р.Фолля. Лечение гомеопатическими лекарственными средствами радикулита, гастрита, головных болей, простатита...
Лиц. №224-ЛМ от 21.12.2001 г. по 30.12.2006 г.
Т. (01773) 68807, (017) 2588814.

Дзяржаўная будаўнічая арганізацыя хутка і якасна выканае работы па мантажу сістэм газазабеспячэння, а таксама сантэхнічныя работы.
Тэл.: (01773) 53482, 53455.

МПУ РУП «Строммаш» вырабляе і рэалізуе:
1. Паддон для цэглы, блокаў, касеты для шыферу.
2. Траверсы, стропы ланцуговыя і канатныя, кантэйнеры.
3. Ролікі (жалабатыя, падтрымныя).
4. Вырабы з металу (вароты, гаражы, металічныя, рашоткі і г.д.).
Тэл. (01773) 53963, факс 53994.

«МТЗ Смаргоньтрактарасэрвіс»
даччынае прадпрыемства і дылер МТЗ
рэалізуе трактары «Беларус» і запчасткі да іх
са склада і пад заказ.
Гарантыя якасці, нізкія цэны, мінімальныя тэрміны.
Тэл./факс: (01592) 22522.

ТАА «Мега Літас» (раней ІП Гіль)
ПОМНІКІ танна
з чорнага і каляровага граніту
Любыя формы і памеры. Гатовыя і пад заказ. Камп'ютэрная апрацоўка шрыфта. Дастаўка. Устаноўка. Скідка.
Вілейка, зав. Гідрабудаўнікоў, 3/а,
тэл. (01771) 32884.

■ ПУЛЬС ЭКАНОМІКІ

## Беспрацоўе

**МАЛАДЗЕЧНА. 922 новыя рабочыя месцы былі створаны ў горадзе за мінулы год.**

Тым не менш, праблема беспрацоўя не вырашана. Праз цэнтр занятасці насельніцтва, па стану на 1 лютага, шукаюць для сябе працу 2027 маладзечанцаў.

**Марына СЛІЖ.**

## Новая паслуга

**СМАРГОНЬ. З пачатку новага года аўтапарк №17 пачаў аказваць новую паслугу.**

У эксплуатацыі знаходзіцца мікрааўтобус "Газэль" на 13 пасажырскіх месц. Яго гараджане могуць выкарыстоўваць для асабістых паездак у межах нашай краіны. Кошт за карыстанне мікрааўтобусам складае 240 рублёў за 1 кіламетр плюс 8800 рублёў за адну гадзіну эксплуатацыі без уліку падатку на прыбавачную вартасць.

**Ірына ЛУГІНА.**

## Ідзе газіфікацыя

**СМАРГОНЬ. Летась у горадзе быў пракладзены прыродны газ да 128 дамоў, на зёсцы – да 7.**

Працягласць газаправодаў павялічылася на 9,7 км, у тым ліку ў горадзе – на 9,3 км. У СВК "Жодзішкі" было пракладзена 402,7 м газаправоду. Газ прыйшоў у некалькі дамоў у в.Солы, вядзецца падрыхтоўка па пракладцы газаправоду на Сольскім агароднінасушыльным заводзе. Сёлета запланавана газіфікацыя Залесся і Кушлянаў, завяршэнне падключэння газу ў дамах па вул. Інтэрнацыянальнай, Сінкевіч і Іванова.

**Ірына ЛУГІНА.**

## Прыватнікі ў лідэрах?

**МІНСК. Больш за палову прамысловай прадукцыі ў Беларусі летась была выраблена прыватным сектарам.**

16 лютага ў МЗС Беларусі адбылася сустрэча міністра замежных спраў Сяргея Мартынава з кіраўнікамі сумесных і замежных прадпрыемстваў, зарэгістраваных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Як паведамляе прэс-служба МЗС, падчас сустрэчы С.Мартынаў зазначыў, што больш за 60 працэнтаў прамысловай прадукцыі летась у Рэспубліцы Беларусь было выраблена прыватным сектарам. Значную ролю ў гэтым адыгралі сумесныя і замежныя прадпрыемствы. У прыватнасці, на іх долю прыходзіцца 5,6 працэнта аб'ёму выробленай прамысловай прадукцыі. Тэмпы росту аб'ёмаў вытворчасці ў супастаўных цэнах у СП і ЗП склалі 116,2 працэнта, у тым ліку ЗП — 128 працэнтаў.

У сустрэчы ўдзельнічалі прадстаўнікі такіх буйных кампаній, як СП ЗАТ «Мілавіца», СП ТАА «Санта-Брэмар», СП ЗАТ «Оціка», ЗП «Маерск Медыкал», СТАА «Белвест», СП ТАА «Беліта», СП ЗАТ «МАЗ-МАН», ЗП «Кока-кола Беўрыджэс Беларусь» і іншыя.

Удзельнікі сустрэчы абмеркавалі бягучыя праблемы развіцця сумесных і замежных прадпрыемстваў у Беларусі, прыцягнення інвестыцый і ўкаранення ў вытворчасць новых тэхналогій. Адбыўся абмен думкамі па пытаннях нарошчвання экспарту і пашырэння прысутнасці беларускіх тавараў на замежных рынках, найперш — на еўрапейскім і расійскім.

**Паводле БелаПАН.**

## За рублём

**МІНСК. У адпаведнасці з падпісанымі дагаворамі і кантрактамі, за межы Беларусі ў 2003 годзе выехалі на работу 6 тысяч 349 чалавек. Аб гэтым паведамляе агенцтва "СаюзІнфо". Былі і такія, хто прыехаў працаваць з–за мяжы і ў Беларусь.**

У спісе краін, дзе афіцыйна працавалі беларускія грамадзяне, амаль 20 краін. Аб гэтым паведаміла начальнік упраўлення працоўнай міграцыі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі **Раіса Дымкова**. Большая частка працоўных мігрантаў – 3 тысячы 476 чалавек – выехалі ў ЗША. На другім месцы Расія – 1 тысяча 560 беларусаў. З еўрапейскіх краін лідзіруюць тут Вялікабрытанія, Германія і Чэхія. Сюды адправіліся на заробкі адпаведна 432, 190 і 162 жыхары Беларусі. У замежжы больш запатрабавана фізічная праца беларусаў – на дапаможных работах і ў якасці абслугі. У 2003 годзе ў Беларусь на дагаворнай аснове прыбылі на работу 1 тысяча 252 грамадзяніны іншых краін.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Мары аб арміі

**Гадоў 20 таму амаль ўсе юнакі марылі аб арміі, а калі хто і не марыў, дык не падаваў выгляду. Бо ў той час не бралі "ў боты" толькі інвалідаў, а інвалідам ніхто не хацеў быць.**

Прайшло дзесяць гадоў. Першая хваля перабудовы змыла старыя традыцыі. У тым ліку і добрыя. Вось два прыклады. Ідзём з сябрам па Маладзечне (сябар маладзечанец) і той сустракае свайго знаёмага і пытаецца, ці пойдзе ён у войска. Субяседнік моршчыцца і адказвае:

—Не.

—Чаму?

—Дык з нашага пад'езда там ніхто ні быў,— і рагоча.

А мой сусед вырашыў "закасіць" ад арміі і адправіўся ў псіхбальніцу. А каб там не было сумна, прыхапіў з сабой трохлітровік гарэлкі, замаскіраваўшы яе пад марынавыя агуркі. Занёс прыпасы ў палату і пайшоў афармляцца, а калі вярнуўся – бачыць "дурні" п'юць гарэлку і закусваюць агуркамі:

– Вы што, дурні, робіце? – пытаецца.

– Сам ты дурань. Кінуў пойла з закуссю, а сам змыўся. Сапраўдных дурняў тут няма. Мы, як і ты, – косім ад войска, – адказвае адзін з васьмярых жыхароў.



Мама прыехала. Фота ByMedia.Net

Напярэдадні свята абаронца Айчыны ў 200–м вучылішчы Вілейкі прайшло апытанне: "Ці хочаце вы служыць у войску". З 36 апытаных юнакоў (узрост 17-18 гадоў) 22 адказалі "так", 3 – яшчэ не вызначыліся, 11 – "не".

6 хочуць служыць у дэсанце, 6 – у спецназе, 5 – у пагранічніках, 2 – у КДБ, 1 – у сувязі, 1 – у супрацьпаветранай абароне, 4 – у любых войсках.

20 згодныя служыць 1 год, 2 – 1,5 года, 2 – 2 гады.

23 не супраць, каб у войску разам з імі служылі жанчыны. 24 – каб у войска адправіць сына (у будучым).

Такім чынам, калі ўлічваць, што цяпер колькасць прызыўнікоў большая, чым патрэбна для службы ў войску, то можна сказаць, што абараняць Айчыну будзе каму. Сам я праслужыў у войску 22 месяцы, 28 дзён і нколькі не шкадую.



Адкрыты ўрок вядзе

Ігар КІЦІКАЎ, kitikoff@tut.by.




Вынікі апытання, праведзенага у ПТВ№200 г. Вілейкі

■ ЗНАЁМЦЕСЯ – КІЯСКЁР

# За газетай – у кіёск

**ВІЛЕЙКА. Даўно мінулі тыя часы, калі кожная сям'я выпісвала два, а то і тры перыядычныя выданні. Але гэта не значыць, што людзі перасталі чытаць. Яны проста часцей сталі звяртацца да паслуг кіёскаў «Саюздруку», у адным з якіх і працуе Ларыса Комар.**

"Газеты не залежваюцца, — расказвае жанчына, — добра купляюць як рэспубліканскія, так і мясцовыя. Пытаюць і вашу, "Рэгіянальную", асабліва тыя віляйчане, чые карані на Смаргоншчыне, Валожыншчыне. Заўсёды ж цікава ведаць, што там, у сваім баку робіцца".

Размешчаны кіёск №5 на аўтавакзале. Таму дэфіцыту на пакупнікоў Ларыса не мае. "Хаця, — заўважае жанчына, — іх ужо не столькі, колькі было 5-6 гадоў таму. Можа, вёскі пастарэлі, і людзі сталі менш ездзіць. А магчыма, уласны транспарт таму прычынай. Сёння амаль што ў кожным двары стаіць аўтамабіль. Не



Ларыса Комар працуе ў кіёску №5, што на Вілейскім аўтавакзале.

шыкоўны "Форд", дык паходжаны "Масквічык". Сваім жа транспартам прасцей і зручней дабірацца".

Раней шапік працаваў у дзве змены. Цяпер гаспадарыць у ім з 9 раніцы да 18 вечара адна Ларыса. Кажа, што асабліва не прысядзеш, амаль увесь час каля акенца стаяць пакупнікі, якім заўсёды рада прапанаваць тавар. Бо зарплата кіяскёра, як і прадаўца ў магазіне, залежыць ад выручкі. У мінулым месяцы, напрыклад, Ларыса Комар план выканала, рэалізавала тавару на 2 мільёны 800 тысяч рублёў. Якім будзе люты, пакажа час.

"Газеты ў кіёск, — расказвае жанчына, — прывозяць кожны дзень. Астатні тавар заказваю па меры неабходнасці. Сачу, каб і канцылярскія вырабы былі, і паштоўкі, кнігі. Пакупнік жа розны".

Дарэчы, Ларыса і сама любіць чытаць. Перавагу якому-небудзь аднаму аўтару не аддае. Чытае ўсё, што трапляецца ў рукі. Аднымі кнігамі часам дзеляцца сяброўкі, іншыя купляе сама. Дзеці выраслі, клопатаў стала менш, часу вольнага прыбавілася, чаму б не пачытаць. Асабліва цяпер, зімой, калі няма ніякіх клопатаў ні ў двары, ні на агародзе.

Марына СЛІЖ.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Бачачы гэта, дзядзькі пастанавілі пасьля тыдня адправіць мяне назад у Будслаў. Знайшлі кагось, хто ў тым напрамку ехаў, той абяцаў мной заапекавацца ў дарозе. Помню той дзень, калі я вярнулася ў роднае мястэчка. Была прыгожая сонечная нядзеля. Са станцыі прывёз мяне на сваёй брычцы сусед Хаім. Увайшоўшы ў сені, глянула я праз шчыліну адкрытых дзьвярэй у кухню. Уся наша сям'я сядзела за сталом і абедала. Бачачы іх, сьціснуў мяне такі жаль за сэрца, што я голасна заплакала. Ускочылі ўсе ад стала й выбеглі паглядзець, хто так плача. Пытаюцца мяне, што сталася, чаму я так хутка вярнулася, а я не магу прамовіць аднаго слова. І гэта было апошняе лета жыцьця нашага разам з бацькамі. Год пазьней, гэтай парой, наша сям'я рассыпалася. Відаць, прадчувала я гэта, і таму не магла выседзець у дзядзькоў.

## У Вільні

Пасьля сьмерці мамы, у гэтым жа месяцы выехала я ў Вільню. Забраў мяне туды Эдвард Будзька, які ў тым часе знаходзіўся разам зь сям'ёй на вакацыях у Будславе. І так першы раз у сваім жыцьці знайшлася я ў вялікім горадзе. Аддалі мяне на вучобу ў Віленскую Беларускую Гімназію, якая знаходзілася на вуліцы Вострабрамскай, 9 у базыліянскіх мурах.

Здала я экзамен у чацьвёртую клясу. У гэту ж клясу паступіў і брат мой Пётрусь. Жыў ён у інтэрнаце пры гімназіі, а я спачатку ў Будзькаў, а пазьней у інтэрнаце на Завальнай, які ўтрымоўвалі мэтадысты. У ім жылі выключна вучні нашай гімназіі. Ня мела я цяжкасьцяў у вучобе — адно гора было з матэматыкай, а думаю таму, што выкладаў яе вучыцель Ральцэвіч на рускай мове, якой я ня знала, а асабліва ніколі ня чула матэматычных тэрмінаў. Дагэтуль вучылася матэматыцы па-польску. Сядзела я тады на матэматыцы, як на турэцкім казаньні. Найлягчэй даваліся мне нямецкая й лацінская мовы, а таксама польская. За першую дыктоўку зь беларускай мовы я атрымала кол, але ў канцы года ўжо мела добра. Нямецкай мове вучыла нас фраў Бэнцлебен, лацінскай — Міхалевіч, беларускай — пані Алёна Леканд-Сакалова. Геаграфіі вучыла полька Адальфова і польскай мове Кшэмянёва. Дырэктарам гімназіі быў Радаслаў Астроўскі.

У гімназіі пазнала я многа мілых дзяўчат — большасьць зь іх былі праваслаўныя. Сядзела я ў адной лаўцы за ўсю гімназію з Галяй Швэдавай і зь ёй найбольш прыязьнілася. Дружыла таксама з Галяй Міхалевіч, дачкой лаціністa, Раяй Падабед, Нінай Прахаровіч, Кірай Гаўрыловіч, Ганнай Карпюк і Шурай Жыткевіч. З хлопцаў асталіся найбольш у памяці Сьвецік Коўш, Вася Грузд, Кастусь Касяк, Валодзя Шавель (апошнія тры не жывуць ужо. Грузд кінуў быў гімназію й пайшоў у Савецкі Саюз, дзе прапаў бязь весткі, Кастуся Касяка, як кажуць, пасьля вайны павесілі ў Вялейцы, а Шавель у часе вайны загінуў). Касяк гэта быў найлепшы й найздальнейшы вучань у нашай клясе. Шавель — адзін з найінтэлігентнейшых хлопцаў.

Брат мой толькі адзін год вучыўся. Яму не вязло ў вучобе, астаўся на другі год у гэтай самай клясе. Таму гімназію пакінуў. Таксама толькі адзін год у ёй вучыліся мае стрыечныя браты Чэсь Мядзёлка й Герэк, а таксама Чэсь Васілевіч з нашага Будслава. (Чэсь Васілевіч таксама не жыве ўжо. У 1939 годзе, як толькі прыйшлі ў Будслаў савецкія жаўнеры, яго забралі й сьлед па ім загінуў. Ніхто аб ім больш не пачуў. А быў ён вялікім начальнікам пры панскай Польшчы, быў начальнікам пажарнай стражы).

Утрыманьне мела я ў інтэрнаце, а вопратку давалі мне Будзькі па сваіх дочках Люні і Ірцы , якія таксама вучыліся ў нашай гімназіі, толькі ў старэйшых клясах. Я іх вельмі любіла й люблю да сёньняшняга дня. У іх быў брат Чэсік, таксама вучань нашай гімназіі.

Мела я добрыя сяброўкі і ў малодшых клясах. Прыязьнілася зь Людкай Жамойцінай з-пад Ліды. Зь ёй пасьля доўгіх гадоў нябачаньня спаткалася ў Варшаве й цяпер бачуся вельмі часта. Амаль кожны дзень да сябе звонім і дзелімся з сабою кожнай добрай ці кепскай весткай, кожным перажываньнем. Няма ў нас ніякіх таямніц.

Гімназія наша мела свой духавы аркестр. Часта восеньню й вясною хадзілі мы ўсёй школай за горад на прагулку. Маршыравалі тады пад гукі аркестра, а я гэта так любіла. Часта былі ў гімназіі вечарыны й часта ладзілі пастаноўкі або канцэрты. Тады яшчэ не найгоршы быў мой голас і я магла сьпяваць у хоры Рыгора Шырмы. Любіла я сьпяваць і часта выступала на сцэне.

Анеля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

# Дапамога не прыйшла

**На аўтобусным прыпынку знайшлі цела маладога чалавека з прыкметамі пераахаладжэння і алкагольнага ап'янення. "Бач, добра апрануты, значыць, сям'я ёсць". "А можа, яго атруцілі гарэлкай з клафелінам", — разважалі пасажыры, што чакалі транспарт. А я ўсё ніяк не мог зразумець, як магло такое здарыцца, што ва ўмовах мараторыя на смяротнае пакаранне чалавека магла напаткаць такая недарэчная смерць у самым цэнтры горада.**


Лёс п'янага незайздросны. Фота ByMedia.Net

Неяк давялося весці гутарку з мужчынам, які жыве на Поўначы. Але не так уразілі яго расказы пра тамтэйшы клімат, як словы, сказаныя як бы між іншым: "У нас ніколі гаспадар не выправіць п'янога госця з хаты аднаго. Ці мала што можа здарыцца ў дарозе".

Па мерках Поўначы, мінус 15 градусаў адносна мяккае надвор'е. У Беларусі мароз вільготны, таму абмаражэнні часам бываюць і пры такой тэмпературы. Тым не менш, далёка не ў кожным доме прынята праводзіць падвыпіўшага госця да аўтобуса, цягніка альбо пакідаць нанач. Што можа здарыцца з чалавекам у людным горадзе, даедзе!

Хтосьці вось так, бяздумна, вытаўкаў і гэтага мужчыну з дома, кватэры. Непадобны ён быў ні на бамжа, ні на п'яніцу, які можа перакуліць бутэльку у падвале альбо пад'ездзе. Людзі, што стаялі на прыпынку, нават прыдумалі версію, што хтосьці яго атруціў няякаснай гарэлкай альбо гарэлкай з клафелінам з мэтай абрабаваць. Маўляў, у прыстойнага, можна сказаць, дорага апранутага чалавека павінны былі быць яшчэ і грошы.

Чаму ж тады ніхто не падышоў да гэтага прыстойнага чалавека, не працягнуў руку дапамогі. Ці, у рэшце рэшт, не выклікаў нарад міліцыі, у горадзе ж працуе выцвярэзнік, альбо "хуткую дапамогу". Абыякавасць завалодала сэрцамі людзей, а ў выніку павялічыўся спіс смяротнасці.

Гісторыя, сведкам якой стаў выпадкова, запала глыбока ў душу. І сёння як медык хачу даць некалькі парад чытачам "Рэгіянальнай газеты", навучыць іх аказваць першую медыцынскую дапамогу пры абмаражэннях. У гэтай сітуацыі чалавека перш-наперш трэба даставіць у цёплае памяшканне, затым зняць мокрае адзенне, абутак і ўхутаць коўдрай. Даць выпіць салодкага чаю і таблетку аспірыну. Ён разрэджвае кроў і садзейнічае захаванню абмарожаных канечнасцяў, а самае галоўнае, за кошт паляпшэння работы каранарных сасудаў, лепш забяспечвае крывёй сардэчную мышцу.

Нельга змяшчаць чалавека, які абмарозіўся, у гарачую ванну, гэта вялікая нагрузка на сэрца; прыкладваць да абмарожаных участкаў цела цёплыя прадметы; расціраць спіртам, быццам бы для разагравання і пачырванення скуры. Спірт пры высыханні ахалоджвае скуру і тканкі, павялічвае балявую нагрузку на нервовую сістэму.

Не варта выкарыстоўваць у гэтых выпадках і тлушч альбо мазі, а таксама даваць цацярпеламу алкаголь. Ён выклікае памылковае пачуццё саграванне і больш таго, правакуе парушэнне сардэчнага рытму.

**Аляксандр ГУЛАК, доктар.**

■ ВІЗІТ ДА ДОКТАРА

# Пасля грыпу – цукровы дыябет

**Вучоныя прыводзяць статыстычныя звесткі аб павелічэнні колькасці выпадкаў захворвання дзяцей цукровым дыябетам пасля грыпу. Раней такой праблемы ў педыятрыі не было.**

Падобнае становішча на працягу апошніх 8-9 гадоў назіраюць і дактары-практыкі, якія настойліва раяць бацькам пільна сачыць за дзецьмі, якія перахварэлі на грып. Што павінна насцярожыць? Павышана ўзбуджальны альбо прыгнечаны стан дачкі ці сына, зніжэнне масы цела, схільнасць да вадкасці, сухасць скуры, начное нетрыманне мачы. Варта памятаць і пра тое, што цукровы дыябет — хвароба генетычная. Таму вельмі важна ведаць свой радавод, хваробы бліжэйшых сваякоў, бабуль і дзядуль, што дапаможа доктару планаваць прафілактычныя мерапрыемствы.

Перарастае генетычная схільнасць у хваробу пад уздзеяннем розных фактараў. Гэта могуць быць вірусныя інфекцыі, траўмы, псіхаэмацыянальныя перагрузкі. Не лепшым чынам уздзейнічае на людзей і рост дабрабыту. Імкненне да задавальнення перамагае над крытэрыем каштоўнасці і карыснасці ежы. Слабее кулінарнае майстэрства. Бабулі ўжо не пякуць унукам пірагі і запяканкі, не вараць кампоты з сухафруктаў. Іх месца занялі чыпсы, сухая макарона "Ролтан", хутка-суп, кока-кола. Дарэчы, менавіта гэтыя "далікатэсы" і прапаноўваюць часам бацькі дзецям ў час хваробы.

Прымушаць у час хваробы есці – практыка дрэнная. У вострым перыядзе віруснай інфекцыі апетыт часцей за ўсё адсутнічае. Усе сілы арганізма ў гэты час скіраваны на барацьбу з хваробай, таму дзіця і робіцца вялым, адмаўляецца нават ад любімых страў.

Максімум імунная сістэма ўключаецца пры тэмпературы 38.0-38.5 С. У гэты час вельмі важна даваць хвораму пабольш вадкасці і пільна сачыць за яго станам. Павышэнне тэмпературы цела да 39,0-40,0 градусаў можа прывесці да паражэння нервовай сістэмы. У крытычнай сітуацыі адбываецца пераразмеркаванне забеспячэння органаў крывёй і кіслародам. І прымусовае кармленне можа прывесці да перанапружання інсулярнага апарата падстраўнікавай залозы, адказнай за падтрыманне ўзроўню глюкозы ў крыві.

Хворага лепш пакласці ў ложак і забяспечыць эмацыянальны спакой. Пры гэтым важна рэгулярна мераць тэмпературу, не забывацца пра пітны рэжым. Хворае дзіця звычайна есць столькі, колькі можа засвоіць. Карысна ў вострым перыядзе грыпу даць яму валяр'янку, сардэчнік. Гэтыя травы гарманізуюць нервовую сістэму і здымаюць спазмы страўніка, кішэчніка, жоўцевыдзялення.

Рэклама прапаноўвае ўжываць у вострым перыядзе грыпу вітаміны, хаця гэта не мае навуковага пацвярджэння. Вітаміны – сродак прафілактыкі і аднаўленчага лячэння. У час хваробы лепш ужываць лекавыя прэпараты: жарапаніжаючыя, антыбіётыкі. Выкарыстанне вітамінаў з фарбавальнікамі толькі павышае рызыку алергічных рэакцый, і ў той жа час ніякага ўздзеяння на цяжкасць і працягласць хваробы не аказвае.

Ёсць яшчэ адна праблема – сокі. У арганізме дзіцяці дастаткова запасаў карысных рэчываў на некалькі дзён хваробы, але бацькі баяцца, каб яно не знясілела, і купляюць розныя экзатычныя напоі. Пры хваробе лепш выкарыстаць лекавыя травы свайго рэгіёну.

Спрыяльна ўздзейнічае на дзіцячы арганізм мёд. Ён лёгка засвойваецца, супакойвае нервовую сістэму і сэрца, аказвае лёгкае жаўцягоннае дзеянне. Але ў дзяцей ранняга ўзросту часта бываюць алергіі, у тым ліку і на мёд. Таму лепш даваць яго дзецям старэйшага ўзросту, ды і то не ў фазе крытычнага павышэння тэмпературы цела.

Пры высокай тэмпературы можа выклікаць непрадказальную рэакцыю і ўжыванне малака. Часта дзеці скардзяцца на болі ў жываце, ванітаванне. Забараняецца і наварысты мясны булён, ён часцей падыходзіць у выпадку, калі чалавек перамерз, аслабеў ад цяжкай фізічнай нагрузкі.

Для харчавання дзіцяці ў час хваробы лепш выкарыстоўваць мясцовыя фрукты, стравы з гародніны, кашу, нятлусты суп. Па меры таго, як дзіця папраўляецца, можна даваць тварог, амлет, нятлустае мяса альбо рыбу. Кілбаса не выкарыстоўваецца ў лячэбным харчаванні. Выхад з вымушанага галадання павінен быць паступовым.


**Доктар Аляксандр ГУЛАК.**

■ НАВІНЫ

## Смаргонскія медыкі – лепшыя

**СМАРГОНЬ. У Гродне прайшла калегія, на якой медыкі ўсёй вобласці падводзілі вынікі сваёй работы за мінулы год.**

Смаргонская раённая паліклініка ў выніку заняла 1-е месца ў Гродзенскай вобласці і ўзнагароджана новай машынай "хуткай дапамогі". Хірург **Аляксандр Саўко**, як лепшы спецыяліст у галіне хірургіі, быў узнагароджаны каляровым тэлевізарам. Лепшыя медработнікі па прафсаюзнай лініі адправяцца ў турыстычную паездку ў Полацк.

Летась раённую паліклініку наведала 150590 дарослых і падлеткаў і 49201 дзіця. Агульная колькасць тых, хто звярнуўся да медработнікаў, уключаючы прафагляды, склала 402250 чалавек.

**Ірына ЛУГІНА.**

## Пуцёвак большае

**МІНСК. У 2004 годзе Рэспубліканскі цэнтр па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва плануе забяспечыць пуцёўкамі 964,4 тысячы грамадзян Беларусі.**

Як паведамілі БелаПАН у цэнтры, паказчык забяспечанасці пуцёўкамі штогод расце. Калі ў 2002 годзе пуцёўкі Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва атрымалі 136,5 тысячы працуючых грамадзян, а ў 2003 годзе — 149,6 тысячы, то сёлета плануецца выдзеліць 159,2 тысячы пуцёвак.

**Паводле БелаПАН.**

■ САКРЭТЫ З УСЯГО СВЕТУ

## Стукайце зубамі

**Каб захаваць здаровыя зубы, трэба штодзень выконваць простае практыкаванне – пастукванне зубамі.**

Апісанне гэтага арыгінальнага спосабу было знойдзена ў рукапісах Старажытнага Кітая. Кітайскі доктар Тао Хондзін, які жыў яшчэ ў VI стагоддзі, растлумачыў, што пры гэтым адбываецца.

"Зубы – гэта канчаткі касцей, таму рэгулярнае пастукванне зубамі прымушае рухацца ўсе косці, а разам з тым і трэніраваць мышцы". Другі вялікі кітаец, паэт Сю Дунпхо, меў звычку выконваць гэта практыкаванне ў поўнач, седзячы з перакрыжаванымі нагамі і паглыбленым у дрымоту.

## Магніт замест анальгіну

**Аўстралійскі журналіст Майран Майкацiч сцвярджае, што звычайны магніт можа зняць у чалавека боль куды хутчэй, чым таблеткі.**

Працуючы над артыкуламі па медыцыне, ён знайшоў некалькі крыніц, якія пацвярджаюць лекавыя ўласцівасці магніта. Майран правёў даследаванні і выявіў, што, калі прыкладваць магніт да хворых месцаў, боль праходзіць.

Такі эфект абумоўлены тым, што кроў чалавека іанізаваная. Магніт узаемадзейнічае з ёй, расшырае сасуды і ўзмацняе ток крыві. Акрамя таго, магніт выклікае пачуццё цяпла.

**«Свободный мир».**

# Мічман з жаночай прычоскай

**ВІЛЕЙКА. Адзіная ў Беларусі жанчына-мічман Галіна Паўлічэнка жыве ў Вілейцы. «На сённяшні дзень я лічу сябе шчаслівым чалавекам», — сказала яна ў інтэрв'ю «РГ».**

Галіна нарадзілася ў Белгарадзе (абласны цэнтр Расіі). Яе дзед і бацька былі вайскоўцамі. Хутка, дзяўчынка яшчэ і хадзіць не пачала, сям'ю перавялі ў Віцебск. Там Галіна пайшла ў дзіцячы сад, скончыла школу. Там і цяпер жыве яе мама.

У юнацтве Галіна Паўлічэнка марыла стаць ваеннай, нават займалася ў парашутным гуртку пры вайсковай часці дэсантнікаў. Але ў сапраўднасці не верыла, што калі-небудзь і ёй давядзецца насіць форму. Гэта была нездзяйсняльная, на яе думку, мара. І бацькам гэтая ідэя не падабалася. «Ды я і ўяўлення не мела пра армію, — успамінае Галіна цяпер. — Гэта было проста рамантычнае захапленне». Да таго ж дзяўчат у той час у вайсковыя вучылішчы не бралі. Галіна мела схільнасць да навук дакладных, таму пасля школы паступіла ў Беларускі політэхнічны інстытут (цяперашняя політэхнічная акадэмія) на інжынерабудаўніка.

Была ў інстытуце ваенная кафедра, але ніхто з дзяўчат на яе не пайшоў, а сама Галіна без кампаніі не рашылася: страшна не страшна, але неяк ніякавата адной. Так яна ўпусціла магчымасць атрымаць вайсковае званне.



Галіна Паўлічэнка — адзіная жанчына ў Беларусі, якая мае званне мічмана. Фота Святланы ЦІШКО.

Пасля інстытута па размеркаванні трапіла ў Паставы Віцебскай вобласці. Трэба было адпрацаваць інжынерам 3 гады. Толькі гэтыя 3 гады Галіна і працавала па спецыяльнасці: ужо ў інстытуце зразумела, што інжынер — не яе прафесія. Затым перайшла ў Пастаўскую кватэрна-эксплуатацыйную часць, якая забяспечвае ваенныя гарадкі матэрыяламі для рамонту, сочыць, каб іх камунальная гаспадарка працавала без збояў. Цяпер Галіна Паўлічэнка служыла ў Савецкай Арміі, але заставалася цывільнай, звання не мела.

Калі прыехала па рабоце ў вайсковую часць 49390, што каля Вілейкі, ёй вельмі спадабалася. Найперш ваенны гарадок. Да таго ж тут служылі маракі. А Галіна лічыла і лічыць зараз, што маракі — людзі асаблівыя. Таму, калі ў гэтай часці з'явілася вакансія, дзе магла б служыць жанчына, Галіна адразу прапанавала сваю кандыдатуру. Пераезд не палохаў: яна любіць перамены. І гарнізоннае жыццё з яго вечнымі раз'ездамі-пярэбарамі ведала з уласнага досведу. Адзінай перашкодай магло стаць грамадзянства: у в/ч 49390 служаць толькі расійскія маракі. Але Галіна такой праблемы не мела, яна расійская грамадзянка. Сын да такога рашэння паставіўся спакойна. Цяпер ён і дачка, якая вучыцца ў гімназіі «Логас», з гонарам кажуць: «Наша мама — ваеннаслужачая».

А мама ўжо 12 гадоў служыць з задавальненнем. Ёй прыемна асаблівае стаўленне да яе калег-мужчын: на службе бывае рознае, але мужчыны пры ёй заўсёды тактоўныя і ветлівыя.

На службе Галіна носіць форму. Жаночая форма крыху адрозніваецца ад мужчынскай. Замест кашуляў — блузкі, замест тужурак — жакеты. Толькі курткі і шапкі-вушанкі аднолькавыя. А берэты ёсць толькі ў жанчын. Некалькі гадоў таму ў склад жаночай формы ўвялі яшчэ і штаны. Цяпер іх і спадніцу можна насіць па чарзе. Жаночую прычоску ўстаў не рэгулюе, сказана толькі: прычоска павінна быць акуратнай.

Да 23 лютага Галіна Паўлічэнка рыхтуе падарунак для свайго мужа, капітана II рангу, а ён — для яе. А 8 Сакавіка падарункі атрымлівае толькі яна і яе дачка Марына. Яна марыць быць доктарам. Але часам кажа: «Мусіць, мне давядзецца стаць вайсковым доктарам — усе ў сям'і будуць вайскоўцамі».

**Святлана ЦІШКО.**

■ ДА 60-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

# Яны прайшлі дарогамі вайны

**ВІЛЕЙКА. Сёлета спаўняецца 60 год з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З гэтай нагоды хацелася б нагадаць чытачу аб людзях, якія, не шкадуючы ўласных жыццяў, набліжалі гэты дзень. У ліку іх – салдаты, падпольшчыкі, партызаны.**

## Ён піша вершы пра вайну

**Аляксандр Літвішчанка** – ураджэнец Растоўскай вобласці. Ён прайшоў усю вайну і, нягледзячы на тое, што давялося перажыць, застаўся таварыскім, вясёлым чалавекам. У яго нават хапіла моцы пісаць вершы пра выпрабаванні, якія пачаліся для 20-гадовага юнака ў 1939 годзе, акурат у гэты час яго прызвалі ў рады Савецкай Арміі.

Да 22 чэрвеня 1941 года служба ішла спакойна. А з пачаткам Вялікай Айчыннай вайны пачаліся жыццёвыя выпрабаванні. Ужо 22 чэрвеня 1941 года Аляксандр быў накіраваны ў 2-ю танкавую дывізію ў Літоўскую ССР. Там ён прабыў да 14 ліпеня 1941 года. З 14 ліпеня таго ж года па 6 студзеня 1942-га знаходзіўся на мяжы з Усходняй Прусіяй. Апынуўшыся ў акружэнні, трапіў у нямецкі палон. Пасля двух няўдалых спроб збегчы ўсё ж змог вызваліцца. 24 чэрвеня 1942 года трапіў у партызанскую брыгаду імя Даватара, што дзейнічала на Вілейшчыне.

Дарэчы, за партызанскую дзейнасць ён быў узнагароджаны медалём «Партызану Вялікай Айчыннай вайны 1-й ступені», ордэнам Чырвонай Зоркі.

"У верасні 1942 года, — успамінае А.Літвіненка, — быў распрацаваны план разгрому нямецкага гарнізона на чыгуначнай станцыі Свольна. Загадзя было вядома, што аперацыя падрыхтавана недастаткова: не былі высветлены асобныя агнявыя кропкі. Гарнізон быў даволі вялікі, добра ўмацаваны і лепш узброены. І як вынік – наша аперацыя поспеху не мела. Немцаў з чыгуначнай станцыі не выбілі. Партызаны страт не панеслі. А вось у ворага яны былі. Немцы зразумелі, што ім не ўсё дазволена ў чужым краі.

Пасля гэтай аперацыі, дакладней праз 2-3 дні, нямецкі гарнізон быў павялічаны ў тры разы. Вораг не чакаў, што партызаны асмеляцца напасці. А між тым, гэта было самае буйное наступленне ў гэтым рэгіёне. Акупанты вымушаны былі прыціснуцца да зямлі, залезці ва ўкрыцці не толькі каля станцыі Свольна, але і ў іншых гарнізонах".

## Цалуйка родам з Цалуйкаў

Радзіма **Васіля Цалуйкі** – Гомельшчына. Там ён 21 лютага 1918 года і нарадзіўся. У вёсцы, назва якой цалкам супадае з яго прозвішчам. У 1937 годзе скончыў заатэхнічны тэхнікум у горадзе Клімавічы. Атрымаўшы спецыяльнасць заатэхніка, быў накіраваны на работу ў Казахстан. Там працаваў да верасня 1938, пакуль не паступіў на ветэрынарскі факультэт інстытута. Але скончыць яго перашкодзіла вайна.

"Вайна мяне застала ў Джамбульскай вобласці ў эпізаатэхнічным атрадзе па барацьбе з яшчурам, — прыгадвае Васіль. – Адразу было прынята рашэнне аб вяртанні ў горад Алма-Ата, каб прасіцца на фронт. У гарваенкамаце нас астрыглі, але на фронт не прызвалі. Чацвёрты курс ветфакультэта быў прыцягнуты на ветэрынарную апрацоўку коней, якіх фарміравалі для кавалерыйскіх часцей".

У снежні 1941-га Васіль Цалуйка быў мабілізаваны ЦК Кампартыі Казахстана для выканання дзяржаўнага задання і адкамандзіраваны ў Маскву. Там ён скончыў спецшколу пры ЦК УКП(б). У ліпені 1942 года ў складзе дыверсійнай групы апынуўся на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Тут і пачалося партызанскае жыццё.

З 10 ліпеня па 10 лістапада 1942 года Васіль партызаніў у Магілёўскай вобласці. З 10 лістапада 1942 па снежань 1943 з'яўляўся камісарам партызанскага атрада "За Савецкую Беларусь", які дзейнічаў на Вілейшчыне. Загадам Беларускага штаба партызанскага руху ад 6 чэрвеня 1944 года атрад быўператвораны ў брыгаду, і яго прызначылі яе камісарам.

"За час дыслакацыі ў тыле ворага, — успамінае ветэран, — удзельнічаў у 30 буйных сутычках з нямецкімі акупантамі. Быў пушчаны пад адхон 31 варожы эшалон з салдатамі і тэхнікай, знішчана 17 аўтамашын, падарваны 2 чыгуначныя масты, у тым ліку 23 на шасэйных дарогах, забіты 1353 акупанты". На сваім асабістым рахунку Васіль Цалуйка меў 4 варожыя эшалоны з 270 гітлераўцамі.

За мужнасць гэты чалавек узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга, медалямі "Партызану Айчыннай вайны 1-й ступені", "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гадоў".

## Шлях баявы — кароткі

У вёсцы Раздоры прайшло дзяцінства **Івана Тышкевіча**. Час быў цяжкі, людзі больш думалі пра кавалак хлеба, чым пра навуку, таму скончыў толькі першы клас. А пасля ў жыццё ўварвалася вайна.

У 1941 годзе ён трапляе сувязным у батальён сувязі №59. У складзе гэтага батальёна каля мястэчка Юрацішкі (Гродзеншчына) трапляе ў акружэнне, але дзякуючы ўласным намаганням разам з таварышамі вырываецца з гэтага пекла, няведаючы пра тое, што лёс рыхтуе новы сюрпрыз. 17 ліпеня 1941 года Іван Тышкевіч трапляе ў нямецкі палон. Там ён і прабыў да 1945 года.

Нягледзячы на кароткі баявы шлях, салдат атрымаў узнагароды, сярод якіх медалі "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне", "Дваццаць год перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне" і іншыя.

**Сяргей МАКАРЭВІЧ.**

■ НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Панталоны на шалік

**Быў час, калі я з мужам і малым сынам жыла ў невялічкім пакоі прыватнай кватэры. Мой часта прыходзіў з работы позна, ды яшчэ і выпіўшы. Аднойчы, кладучыся спаць, я сцягнула з сябе беленькія панталончыкі і кінула іх наверх бялізны, што ляжала на крэсле каля дзвярэй.**

Яшчэ не спала, калі адчыніліся дзверы кватэры, і пачула, што муж прыйшоў падвыпіты і не адзін, а з такім жа, як ён. Пакуль гаспадар вешаў шынэль свайго сябра, той, зняўшы з шыі белы шаўковы шалік, кінуў яго ў прыадчыненыя дзверы пакоя. Шалік лёг на мае панталоны і адразу споўз на падлогу. Сябры заселі на кухні і прадоўжылі піць горкую. Дапіліся да таго, што сталі гаварыць на розных мовах. Потым нехта заплакаў, здаецца, яшчэ цалаваліся і, дзякуй богу, нарэшце госць стаў збірацца дамоў. Хоць і быў п'яны прапаршчык, але памятаў, куды кінуў шалік. Прасунуў руку праз адчыненыя дзверы да крэсла і ўзяў... Тым часам мой муж, надзеўшы на госця шынэль, стаў запраўляць пад каўнер "шалік":

— П-п-первый раз в-вижу, шоб шарф б-б-был с резинкой.

Прапаршчык аднак сцяміў, што вісіць у яго пад носам і, схапіўшы мае панталоны, швырнуў іх назад.

Раніцай я падняла з падлогі шалік сабутыльніка "мужа сваво" і, кінуўшы яму ў твар, сказала:

— Хацела б, каб больш ты не мяняў мае паталоны на шалік!

**Жонка п'яніцы.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Спецыялісты з Ілы

На здымку – 1963, магчыма, 1964 год. Навучэнцы Ільянскага саўгаса–тэхнікума на практычных занятках. Будучыя ветэрынарныя фельчары праз год–другі раз'едуцца па Беларусі, а хто і за яе межы. Многія стануць вядомымі людзьмі, класнымі спецыялістамі. Дыплом Ільянскага тэхнікума цаніўся высока. Уладзімір Несцераў, які стаіць злева ад бычка, таксама будзе працаваць фельчарам.

Яго дачка расказвае: "Тата казаў, што калі працаваў у калгасе на ферме, то яго ледзь не абхаджвалі даяркі. А ўсё было проста. Ён вызначаў тлустасць надоенага малака...".

І сёння тэхнікум рыхтуе кадры для сяла. Праўда, не так запатрабаваныя, як сорак гадоў таму. Сельская гаспадарка ніяк не можа выкараскацца з крызісу, калгасы і саўгасы, пераўтвараўшыся ў сельскагаспадарчыя кааператывы, унітарныя і іншага характару прадпрыемствы, за рэдкім выключэннем могуць пахваліцца сваімі поспехамі. Вёска вымерла, спілася. І толькі ва ўспамінах людзей засталіся светлыя моманты мінулага, калі верылі ў камунізм праз 20 гадоў і кукурузу. **Мікола ГАЙДУК.**



**Навучэнцы Ільянскага ветэрынарнага тэхнікума на практычных занятках. Пачатак 60–х гадоў 20–га стагоддзя.**

Фота з альбома Аксаны КУЛЕЎНІЧ.

Паважаныя чытачы. Магчыма, у вашых старых сямейных альбомах ёсць фотакарткі, якія нам могуць расказаць, як жылі нашы земляні дзесяць, дваццаць, сто гадоў таму. Давайце складаць гісторыю нашага рэгіёну разам. Рэдакцыя апублікуе цікавы здымак з вашага старога сямейнага альбома, калі вы таго пажадаеце.

# Кніга Уладзіміра Някляева «Лабух»

**Уладзімір Някляеў, які нарадзіўся ў Смаргоні ў ліпені 1946 года, большасцю энцыклапедычных, даведачных выданняў характарызуецца выключна як паэт. А нядаўна заявіў аб сабе як празаік.**

Безумоўна, найбольшую вядомасць ён мае якраз з-за сваёй працы ў паэзіі. Ужо першы зборнік – "Адкрыццё" (1976 год) вывеў літаратара ў кагорту адметных, яркіх майстроў слова. Наступныя кнігі – "Вынаходцы вятроў" і "Знак аховы" – засведчылі: у паэзію прыйшоў таленавіты, здольны сказаць сваё слова майстра. Тое пацвердзіла і "Прошча" – кніга, якую можна ў адпаведнай ступені лічыць лірычным і грамадзянскім выяўленнем думак аўтара.

Але ва ўсе гады Уладзімір Някляеў меў і пэўны вопыт работы ў прозе. Сёння, калі паэт жыве ў Фінляндыі і ў Беларусь наведваецца толькі зрэдзьчасу, у Мінску пабачыла свет кніга прозы паэта – "Лабух". Жанравы падзагаловак патлумачвае, удакладняе: перад чытачом – "раманчык".



**Уладзімір Някляеў.** Фота ByMedia.Net

Звернемся да характарыстыкі слова "лабух". Ці ёсць яно ў слоўніку? У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы", "асветленым" "агульнай рэдакцыяй" акадэміка Кандрата Крапівы, канешне ж, няма. Але не такое яно ўжо "цёмнае". Лабух – чалавек, які "лабае", іграе на самых розных інструментах, "тусуецца" ў ансамблі рэстаранным ці працуе на якой іншай пляцоўцы сам па сабе. Лабух – гэта яшчэ і чалавек з пэўным ладам жыцця.

"Лабух" – "раманчык" эратычны, дастаткова разняволены, а як для беларускай літаратуры, у якой жанчыну болей за ўсё распранулі Генрых Далідовіч і Адам Глобус, дык і досыць незвычайны і нечаканы. І ўсё ж ён, "раманчык", з'явіўся своечасова. "Лабух" выйшаў з кухні, а калі яшчэ дадаць, што аповяд вядзецца ад першай асобы, дык, пэўна ж, галоўнага героя, лабуха, будуць атаясамліваць з аўтарам. І прыгоды, эратычную, інтымную біяграфію лабуха звярацьз лёсам паэта і празаіка Н. Дакладней, самога Уладзіміра Някляева, у сябрах, знаёмых лабуха, яго каханак шукаць сяброў, знаёмцаў, каханак паэта і празаіка Н. Вялікай бяды ў гэтых чытацкіх "паралелях" няма. Але, відаць, не дзеля гэтага стварaўся "Лабух". І не з'яўляецца "раманчык" расповядам пра інтымныя прыгоды музыкі. "Лабух" – кніга пра наш час. Пра яго мітрэнгі і катаклізмы. Так, і напісана згодна з характарам гэтага незразумелага часу.

Стылёва вытрыманая як жорсткая ацэнка прастытуцыяванага, надзеленае не лепшымі якасцямі часу гэтая кніга – у пэўнай ступені вердыкт, дыягназ, які выносіць мастаклекар Уладзімір Някляеў. Хіба не здрада пануе наўкола? Хіба не хула правіць баль? Хіба не кампраміс аў уладарства цэпер..? Не пагаджайцеся? Дакажыце зваротнае. На крайні выпадак, калі будзеце шукаць аргументы ў сучаснай беларускай літаратуры, то, мусіць, і не дакажаце.

Раман "Лабух" пераказваць досыць складана. У ім – два галоўныя мастацкія пласты. Пачні расказваць першы, верхні, так бы мовіць, – і можна ўвесці чытача ў зман. Галоўнае ж якраз – знутры. Галоўнае – у думках і развагах галоўнага героя, лабуха, які ўвесь час імкнецца пазбавіцца мітусні і жадае зрабіць свой галоўны выбар. Ці зрабіў? Чытайце "Лабух" і самі шукайце адказ не толькі на гэтае пытанне, але і на свае пытанні, калі вы сабе хаця б яшчэ ставіце.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Астравецкія выявы – на паштовых канвертах

**Мала пра што гаворыць бязлікі белы ліст паперы. А калі на ім – родны горад, роднае мястэчка, знаёмы касцёл, партрэт чалавека, чым імем уганаравана назва тваёй вуліцы?.. Хіба гэта не абудзіць, не прымусіць аб нечым родным узгадаць, падумаць?**

Вельмі важна, каб роднае, занатаванае, зафіксаванае і растыражаванае нагадвала і ім пра нашу галоўную еднасць – еднасць з радзімай. А значыць: нагадвала ў побыце, у рэчах празаічных, рэчах, якія часта трапляюць на вочы.

Прыкладам – у выявах на канвертах, паштоўках. Мала пра што гаворыць бязлікі белы ліст паперы. А калі на ім – родны горад, роднае мястэчка, знаёмы касцёл, партрэт чалавека, чым імем уганаравана назва тваёй вуліцы?.. Хіба гэта не абудзіць, не прымусіць аб нечым родным узгадаць, падумаць? На абласной нарадзе начальнікаў раённых вузлоў паштовай сувязі Гродзенскай вобласці, што праходзіла ў Астраўцы, на вочы натрапілі два "астравецкія" канверты. Адзін – 2002 года выдання (да рэспубліканскай нарады супрацоўнікаў паштовай сувязі). З выявай у невялікім блоку фрагмента старажытнай карты (пазначаны там і Астравец, і Ашмяны), старой гарадзенскай пячаткі і здымка будынка Астравецкага раённага вузла паштовай сувязі. На другім канверце (выдадзены ў 2003 годзе, у адрозненне ад першага — маркіраваны) – здымак славутага касцёла Прасвятой Тройцы ў вёсцы Гервяты Астравецкага раёна. Абодва праекты "Белпошты" (першы рэалізаваны з удзелам "Гродна аблпошты") не могуць не выклікаць сімпатый, павагі.

Так хацелася б пабачыць на паштовых канвертах "Белпошты", "Гродна аблпошты" выявы знаёмых культавых пабудоў, гістарычных сядзіб. Магчыма, такія выданні і не варта друкаваць вялікімі тыражамі, але затое іх павінна быць па сваіх найменнях як мага больш.

На вялікі жаль, канверты досыць рэдка разглядаюцца як асобны від паштовай прадукцыі. Няма артыкулаў пра канверт і ў цэлым шэрагу беларускіх энцыклапедый. А між іншым, паштовы канверт – не толькі звычайны сродак дзеля адпраўлення карэспандэнцый, але і сапраўдны прадмет мастацтва, гісторыі. І тым больш – з'ява ў філатэліі як найцікавейшым калекцыянерскім занятку.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ КАЛЯНДАР

**23 лютага. 250 гадоў назад, у 1754 годзе, нарадзіўся Станіслаў Панятоўскі** (1754 - 1833), ваенны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, генераллейтэнант польскага войска, шэф першай каронная гвардыі, падскарбі вялікі Вялікага княства Літоўскага.

**24 лютага. 80 гадоў назад, 24 лютага 1924 года, у вёсцы Павязынь Маладзечанскага раёна нарадзіўся Пётр Кузюковіч** – хірург, доктар медыцынскіх навук (1969). Вучань (у часы вайны) Барыса Кіта. З 1974 года – загадчык кафедры фтызіятрыі і пульманалогіі Беларускага інстытута ўдасканалення дактароў, аўтар 6 манаграфій і 120 навуковых работ, у 1995 годзе выбраны членам-карэспандэнтам Міжнароднай АН Еўразіі, з 1999 года – праваможны член АН РБ.

## Ашмянскі летапісец расійскай эміграцыі

З адкрыццём доступу да спецсховішчаў літаратуры і дакументаў ва ўжытак расійскага крыніцазнаўства ўведзены многія новыя, дагэтуль невядомыя імёны. Шкада толькі, што — пры ўсіх размовах пра паспяховае шэсце інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй – вартая ўвагі і ў Беларусі інфармацыя застаецца нам маладаступнай.

Як прыклад, лёс ураджэнца Ашмян Канстанціна Парчэўскага. Па драбніцах збіраю пра яго звесткі, спадзеючыся нешта стварыць на ўзор цэласнага жыццёвага і творчага партрэта земляка-літаратара. Пакуль вядома, што нарадзіўся ён у 1891 годзе. У 1918 годзе – ва ўзросце 27 гадоў (значыць, недзе яшчэ вучыўся альбо працаваў, альбо знаходзіўся на вайне) – законччыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. А ў хуткім часе – і псіханеўралагічны інстытут Бехцерава. Як бачым, досыць цікавае кола занятка ў.

У 1920 годзе Канстанцін Канстанцінавіч эмігрыруе ў Балгарыю. Затым – праз 3 гады – пераязджае ў Парыж. Шмат падарожнічае па свеце. Падарожнічае не толькі па Еўропе. Імкнецца даследаваць усе цэнтры расійскай эміграцыі. Уважлівы да аспектаў рэлігійнага жыцця эмігрантаў. У 1936 годзе выдае ў Парыжы кнігу "У Парагвай і Аргенціну". Дарэчы, у 1930-я гады ў Аргенціне ўжо сфарміравався і пэўны асяродак беларускай эміграцыі. Ці цікавіў гэты цэнтр ураджэнца беларускага мястэчка Канстанціна Парчэўскага?

Напрыканцы жыцця пісьменнік вярнуўся ў Расію. У 1945 годзе ён памёр у Маскве. У 2002 годзе ў Маскве выдадзена кніга К.Парчэўскага "Па рускіх вуглах". Варта, відаць, нагадаць яшчэ і тое, што ў 1918 годзе былі выдадзены навукова-публіцыстычныя кнігі нашага суродзіча – "Самавызначэнне народаў" і "Становішча прэзідэнта ў дэмакратычнай рэспубліцы". Вось пакуль і ўсё, што вядома пра ўраджэнца Ашмян Канстанціна Парчэўскага.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ ЛЫЖНЫЯ ГОНКІ

# Спартакіяда школ

**МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ. Спартакіяда спартыўных школ краіны прайшла на новым лыжным стадыёне ў Бярозавым Гаі 14-15 лютага.**

Прыехалі семнаццаць каманд з выхаванцамі 1989-1990 і 1991-1992 г.н. – усяго каля двухсот удзельнікаў. Старэйшыя хлопцы пераадолелі 7,5 км свабодным стылем і 5 км "класікай", а дзяўчаты – адпаведна па 5 км. Малодшыя хлопцы – па 5 км і дзяўчаты – па 3 км свабодным стылем і "класікай". Першае каманднае месца заняла наваполацкая СДЮШАР.

Мядзельская ДЮСШ пакінула за сабою пятую пазіцыю, якая дае магчымасць за кошт рэспубліканскай федэрацыі выязджаць на старты наступнага сезона. Сярод удзельнікаў малодшага ўзросту на абедзвюх дыстанцыях першынствавала **Вольга Зубар**, а **Ігар Анкудовіч** быў другім. Іх трэнеры **Валерый Далінін** і **Наталля Уцюгова**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**




У нядзелю на гонках у Бярозавым Гаі.

Фота Саятланы ЦІШКО.

# Была такая каманда...

**Пачатак у нумарах за 30 студзеня, 6 і 13 лютага.**

## Поспехі 1963 года

У першынстве рэспублікі гулялі толькі адзін круг, і спаборніцтвы завяршыліся яшчэ ў ліпені, прычым "Спартак" ні разу не прайграў. У зоне з 8 каманд мелі першае месца (баланс: +5=2-0 15-5). З будучым трэцім прызёрам брэсцкім "Лакаматывам" была нічыя 0:0. У фінальным турніры 8 каманд гулялі з выхадцамі іншай зоны (баланс: +3=1-0 12-6). З камандай мінскага "Тарпеда", якая заняла другое месца, разышліся ўнічыю 2:2. Баланс фінальнай пулькі атрымаўся такім: +4=3-0 16-8.

Апошняя гульня з віцебскім "Чырвоным сцягам" праходзіла дома і завяршылася з лікам 5:3. Яна ўжо нічога не вырашала, таму загадзя была арганізавана ўрачыстасць. Прадстаўнік федэрацыі футбола ўручыў пераходны прыз, медалі, дыпломы, а мясцовыя ўлады паклапаціліся аб каштоўных прызах.

На працягу жніўня прайшоў кубкавы турнір, удзел у якім у папярэднія сезоны быў для "Спартака" няўдалым. Салідна заяўкай на поспех стала перамога 7:1 у дамашнім матчы 1/8 фіналу. На чвэрцьфінальным выездзе ў Пінску сабралася 5 тысяч гледачоў. У прэсе паведамлялася, што госці здабылі валявую перамогу 2:1 дзякуючы галам **Салаценкава** і **Катоўскага**. Дамашні паўфінал з магілёўскім "Металургам" сабраў 3 тысячы балельшчыкаў – лік 4:1 (хет-трыкам адзначыўся **В.Кандулінскі**).

**1 верасня. Фінал. Стадыён "Дынама" (Мінск). 8000 гледачоў.**
**Спадарожнік (Мінск) – Спартак 1:0.**

Склад: **Зайцаў**, **Васаган**, **Бохан**, **Адзінцоў**, **Сіроткін**, **В.Кандулінскі**, **Шэлюх**, **Катоўскі**, **Берасneў**, **Саланенкаў**, **Траскоўскі**.

Успамінае **Анатоль Берасneў**:

— Нам забілі гол з парушэннем правілаў на апошніх хвілінах. Зайцаў трымаў мяч у руках ля самых варот. Нападаючы саперніка падбег і проста штурхнуў нашага галкіпера разам з мячом у сетку, але суддзі гол залічылі. Адказныя асобы потым тлумачылі, што ў выпадку нашай перамогі толькі адна каманда ад БССР, а не дзве, магла б выступіць у Кубку СССР сярод КФК.

Праз два тыдні "Спартак" дэбютаваў у "Кубку мільёнаў" (так яшчэ называўся гэты турнір).

**15 верасня. 1/16 фіналу.**
**Спартак – Зорка (Смаленск) 4:1 (1:1).**

Галы: Саланенкаў (19, 71), Катоўскі (49), Траскоўскі (86); (17).

Аб гэтай баталіі з гумарам расказвае **Юрый Адзінцоў**:

— Мы іх тут злавілі як "дваравых". Яны прыехалі і напярэдадні прыйшлі на нашу трэніроўку. Я ж для сваіх лідэраў правёў заняткі раніцай і сказаў, каб селі на трыбуны і не злазілі, а паказаў гасцям слабейшых гульцоў.

"Падпусцілі" Васю-"мільянера" (вядомага балельшчыка **Васіля Разанава**, у якога "вадзіліся" грошы). Ён "нагнаў вецер" пра нашу каманду: "Ды яны такія п'яніцы, ды куды ім...".

А яшчэ смаляне з вечара ў чыгуначным рэстаране "добра" пасядзелі, а надвор'е назаўтра было спякотнае...Пасля гульні плакалі, перапіліся – іх павысаджвалі з поезда, у Мінску ледзь справа гаўптвахтай (бо ваеннаслужачыя!) не скончылася.

Памятаю ў гэтым матчы гол Траскоўскага, бо ён забіў з маёй падачы, а я рэдка падключаўся да атак. Падкруціў яму мяч з левага боку пад левую "лапу". Ён як "злавіў" на нагу "шчыльна", дык паміж вушэй варатара і "прасвісцела".

**22 верасня. 1/8 фіналу.**
**Метэор (Днепрапятроўск) – Спартак 2:2 (2:1).**

Галы: (10), (30); Траскоўскі (4), Сіроткін (47).

У прэсе паведамлялася, што матч з уладальнікам Кубка Украіны прайшоў у напружанай абстаноўцы і насіў грубаваты характар, бо ў гаспадароў было адно выдаленне, а ў гасцей – два. Дадатковыя паўгадзіны не выявілі мацнейшага, таму была прызначана перагульнёўка. Па газетных дадзеных, яна адбылася 25 верасня, але ветэраны "Спартака" ўспамінаюць, што матч прайшоў ужо на наступны дзень.

Метэор – Спартак 3:1 (1:1 – у асноўны час; 2:0).

Галы: (83), (95), (100); Катоўскі (44).

Гаспадары з цяжкасцю пераадолелі маладзечанскі бар'ер, а потым сталі трэцімі па выніках розыгрышу.

Неймавернае напружанне гэтых матчаў прыгадвае **Альберт Зайцаў**:

— Ну, як тут гаварыць? Паехалі адзінаццаць чалавек у абрэз. Першы дзень згулялі ўнічыю. На наступны дзень у нас тыя ж людзі выходзяць. Асноўны час – 1:1. Зноў прызначаны дадатковы час. Адзін з партнёраў сядзіць побач і гаворыць:

– Калі зараз яны не заб'юць, я паварочваюся і б'ю табе сам – не магу больш, лыткі ў мяне ўжо "адыходзяць".

Калі сапернікі забілі гол, дык мы і рады былі. А што рабіць? Яшчэ адна перагульнёўка? Сілы няма, ды і ў нас ужо былі білеты заказаныя на зваротны шлях.

**Працяг будзе.**
**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ КАНКУР

**МАЛАДЗЕЧНА. На чэмпіянаце краіны ў Ратамцы 12-15 лютага паспяхова выступілі былыя і цяперашнія выхаванцы раённай ДЮСШ.**

**Сяргей Пятроў** з канём Выбарам перамог у самым прэстыжным старце: "Кубак" з вышынёй перашкодаў у 150 см. З тым жа канём ён заняў другое месца на 140 см ("Два гіта") і трэцяе месца на 140 см.

**Віктар Пятроў** першынстваваў на 125 см з Сіндзі і быў другім на 140 см з Віднай. **Алена Вальчык** перамагла на 140 см ("Два гіта") з Бабетай. **Вольга Макей** стала трэцяй на 125 см з Фройлейн.

Трэнер спартсменаў **Уладзімір Пятроў** расказаў, што ёсць значныя праблемы з утрыманнем коней. Апошнім часам яно пагоршылася, у першую чаргу, не хапае кармоў.

■ ПАЛІЯТЛОН

**МАЛАДЗЕЧНА. У адкрытым чэмпіянаце краіны ў Віцебску ў складзе зборнай вобласці прынялі ўдзел чацвёра мясцовых мнагаборцаў.**

Найлепшы вынік паказала **Алена Відзякіна**, якая стала пераможцай у сваёй узроставай групе. Яна змагалася ў пнеўматычнай стральбе, гімнастычных адцісканнях і лыжным бегу на 3 км.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ШАХМАТЫ

**МЯДЗЕЛ. У Купе прайшоў шахматны турнір.**

На гэты раз — юбілейны, 20-ты па ліку. Упэўнена перамог у ім жыхар Кабыльніка **Уладзімір Паляшчук**.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ФУТБОЛ, МІЖСЕЗОННЕ

# Перамены ў «Маладзечна-2000»

### Смаргонь

Турнір у Шчучыне з-за дрэнных умоваў надвор'я не адбыўся, затое праведзены кантрольныя сустрэчы ў Лідзе на снежным пакрыцці.

11 лютага. Ліда – Смаргонь 0:1.

Гол: **Гамановіч** (75).

12 лютага. Ліда – Смаргонь 0:0.

Другія склады. Ліда – Смаргонь 0:4.

Галы: **Аначэнка** – 2, **Судзін**, **Рыбак**.

На збор у Алушту разам з трэнерскім штабам адправіліся 23 футбалісты.

Сярод іх 14 "старажылаў": варатар **Шляхавой**, абаронцы **Давідовіч**, **Дукса**, **Курак**, **Сінічын**, **Судзін**, **Трындзюк**, паўабаронцы **Дзігілевіч**, **Карасёў**, **Кукалевіч**, **Кухлей**, **Тарасаў**, **Шырабокаў**, нападаючы **Кітурка**. Зазначым, што няма ў гэтым спісе **Валавіка**, а Дуксу трэнеры будуць спрабаваць як абаронцу.

Таксама паехалі 9 навічкоў, якія знаходзяцца на праглядзе. Даюцца назвы апошніх каманд і статыстыка летатняга выступлення за іх. Варатары **Вячаслаў Канашэвіч** (1970, "Камунальнік", Д2, 24 матчы), **Альберт Рыбак** (1973, "Нёман", Д1, 15), абаронца **Вадзім Дыро** (1986, РВАР, Д3, 2) – выхаванец смаргонскай ДЮСШ, паўабаронцы **Віталь Гамановіч** (1974, "Нафтан", Д1, 3), **Юрый Раманоўскі** (1975, "Нафтан", Д1, 5), **Яўген Задарожны** (1983) – украінскі легіянер з Луганска, нападаючыя **Алег Вярбіцкі** (1973) – гуляў летась у Фінляндыі, **Віктар Урублеўскі** (1978, "Маладзечна-2000", Д1, 14, 1 гол), **Дзмітрый Аначэнка** (1978, "Камунальнік", Д2, 27, 2).

### Маладзечна-2000

У клубе адбыліся істотныя змены. Трэніровачным працэсам кіруе **Віталь Казяк**, яму дапамагае **Аляксандр Гармаза**. Камісію па прыёмцы ўсіх клубных справаў узначаліў **Уладзімір Галубко**. Усе яны на бягучым тыдні толькі прыступалі да выканання сваіх абавязкаў, так што пакуль перамены не набылі поўнай канкрэтыкі.

На працягу апошняга месяца на нерэгулярных занятках прысутнічалі выключна мясцовыя гульцы, ды і то не ўсе. Напрыклад, у сталічных клубах вышэйшай лігі праходзяць перадсезонную падрыхтоўку **Дараховіч**, **Лявончык**, **Ляпета** і **Мятліцкі**, а **Альховік** ужо вельмі блізкі да таго, каб працягнуць кар'еру ў "Дняпры-Трансмашы". Што тычыцца іншагародніх футбалістаў, то дакладна вядомы пераход Хамутоўскага ў "Зорку-ВА-БДУ".

Яшчэ адна навіна тычыцца "паляны" гарадоцкага стадыёна – яна будзе рамантавацца. Пагэтаму дамашнія матчы першага круга могуць быць праведзены альбо на стадыёне ДЮСШ, альбо ў Чысці.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Дарослыя – першыя, юнакі – другія

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля перамогі на дамашнім занальным турніры каманда горада ездзіла 13-14 лютага на фінальныя спаборніцтвы ў Барысаў.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Маладзечна | ## | 13 |
| 2. Нясвіжскі раён | 6:6 | 8 |
| 3. Смалявіцкі раён | 10:2 | 7 |
| 4. Слуцк | 7:3 | 7 |
| 5. Дынама (Бар.) | 10:2 | 6 |
| 6. АГУ (Барысаў) | 3:1 | 1 |

Найбольш галоў забілі **Вышынскі** (14), які прызнаны лепшым гульцом турніру, і **Татун** (7). Таксама ў складзе былі варатар **Мароз**, палявыя **Грыхуцік**, **Дрозд**, **Касцюк**, **Невядомскі**, **Смірноў**.

**У спаборніцтве юнакоў удзельнічалі калектывы 1989 г.н. Трэнер Аляксандр Гармаза палову каманды склаў з хлопцаў 1990 г.н.**

Занальны турнір адбыўся ў зале ЗМК 19-20 студзеня. Гаспадары першынствавалі, атрымаўшы перамогі над Заслаўем 6:3, Лагойскім раёнам 6:1, Маладзечанскім раёнам 11:2. Найбольш галоў забілі: Ігар Алсуф'еў – 7, Антон Капцюг і Сяргей Корсак – па 5.

Фінальны турнір прайшоў у Барысаве 10-11 лютага і прынёс другое месца.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Салігорск | 1:6 | 6 |
| 2. Маладзечна | ## | 6 |
| 3. Нясвіжскі раён | 4:3 | 3 |
| 4. Барысаў | 6:5 | 3 |

Найбольш забілі **Алсуф'еў** (4) і **Капцюг** (3). Лепшым абаронцам быў прызнаны **Сяргей Космач**, а прыз глядацкіх сімпатый дастаўся Алсуф'еву.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

